"БЕЛАРУСКІ ГОЛАС"
Выдае Фэдэрацыя Вольн. Беларускіх Журналістых



"BYELORUSSIAN VOICE"
24 Tarlton Rd., Toronto, Canada M5P 2M4
Tel.: 488-0048

Рэдагуе: Радкалегія

Артыкулы падпісаныя прозывішчам, ініцыяламі ці псэўданімам аўтара, не заўсягды выказваюць погляды Радакцыі.

Галоўны - С.ХМАРА

Тэх.Радактар - Алесь Морын

ПАЛІТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ

# Зянон ПАЗЬНЯК: Мы павінны ісьці ў Эўропу

У палітыцы БНФ і ў палітыцы кіраўніцтва Рэспублікі павінна быць вызначаная галоўная канцэпцыя, якая акрэсьліць нашае існаваньне ў пэрспэктыве. Гэтая канцэпцыя ёсьць незалежнасьць. Мы павінны грунтаваць нашую палітыку на прынцыпе дасягненьня незалежнасьці, умацаваньня сувэрэнітэту, стварэньня структураў незалежнае дзяржавы, разьвіцьця эканомікі Беларусі, як незалежнае дзяржавы й г.д. Адмаўленьне прынцыпу незалежнасьці прывядзе нашую Рэспубліку й наш Рух да краху. З гэтага пункту гледжаньня хацелася-б зрабіць ацэнку апошніх падзеяў і сітуацыі, якая склалася на прасторы былога СССР.

На пачатку сьнежня становішча на тэрыторыі былога Саюзу пры адсутнасьці пазітыўнага вырашэньня пагражала канфліктам паміж паасобнымі рэспублікамі й палітычнымі сіламі, што пры наяўнасьці зваротаў да войска магло выліцца ў збройнае супрацьстаяньне.

Склалася наступнае геапалітычнае разьмеркаваньне сілаў. Адзін з блёкаў складаюць пяць рэспублік Сярэдняе Азіі, дзе захавалі ўладу камуністычныя рэжымы. З гэтае групы я не выключаю й Кыргызстан, хаця з суб'ектыўнага пункту погляду там сітуацыя трошкі іншая (маецца на ўвазе асоба прэзідэнта Акаева). Палітыку гэтых рэспублік дыктуе іхняя гісторыя, мэнтальнасьць і эканамічнае становішча. Эканоміка гэтых рэспублік пабудаваная пераважна на экспарце сыравіны. Напрыклад, Узьбекістан спэцыялізуецца на вывазе бавоўны, а ягоная эканоміка носіць тыпова каляніяльны характар. Патрэбы ўнутранага рынку гэтая рэспубліка са свае вытворчасьці забясьпечвае толькі на 56%. Тое самае тычыцца й усіх астатніх сярэднеазіяцкіх рэспублік, у тым ліку Казахстану, які па аб'ёмах сыравінных рэсурсаў зьяўляецца адной з самых багатых краінаў сьвету.

У геапалітычным пляне гэтыя рэспублікі аб'ектыўна зацікаўленыя ў захаваньні Саюзу. Камуністычныя рэжымы адчуваюць, што ў варунках вышэй згаданай эканамічнай сітуацыі сваімі сіламі яны зь вялікімі цяжкасьцямі здолеюць выйсьці на новы эканамічны этап. У палітычным аспэкце камуністычныя рэжымы Сярэдняй Азіі занепакоеныя ўздымам ісламу, падтрымкай, якую ісламскія рухі атрымліваюць з-за мяжы, і тым, што рана ці позна гэтыя рухі заявяць пра сябе на ўвесь голас, што будзе азначаць канец камунізму. Каб захаваць уладу й стрымаць іслам, камуністы пайшлі зь ім на пагадненьне, добра ведаючы, што гэтае пагадненьне часовае. Дзеля падтрыманьня часовага парытэту зь ісламам сярэднеазіяцкім уладам патрэбнае чужое немусульманскае, найлепш славянскае войска, якое падпарадкоўвалася-б адзінаму цэнтральнаму камандаваньню.

Асаблівую небясьпеку ў справе рэанімацыі ўнітарнай дзяржавы на тэрыторыі былога СССР цяпер уяўляе войска, якое з часткі дзяржаўнай структуры пасьля краху кампартыі ператвараецца ў асобную ўзброеную да зубоў сацыяльна-палітычную сілу. Захаваньне адзінага войска з усімі ягонымі структурамі – гарантыя аднаўленьня таталітарнага Саюзу.

Другая геапалітычная сіла – Расея, якая ў эканамічным сэнсе зьяўляецца імпэрыяй, будуе сваю эканоміку пераважна на вывазе сыравіны, у першую чаргу нафты. Расея зьяўляецца імпэрыяй і па сваёй структуры, бо гістарычна сфармавалася як імпэрыя – шляхам прыў... шчваньня й захопу тэрыторыяў. Цяпер Расея ўяўляе велізарную прастору, на якой жывуць розныя нацыі рознага культурнага ўзроўню – ад першабытнага да сучаснага; існуюць розныя эканамічныя зоны – ад тыпова сыравінных да разьвітых прамысловых цэнтраў. Дзяржава з такой велізарнай тэрыторыяй, з такою розьніцай культурнае й эканамічнае шкалы можа нармальна існаваць толькі як таталітарная імпэрыя з моцнаю цэнтральнаю ўладай. Таму палітыка Расеі аб'ектыўна выражае імпэрскія інтарэсы. Дзяржаўная пазіцыя Расеі



акрэсьліваецца зацікаўленьнем у захаваньні на пэўным этапе саюзных структураў, каб потым, шляхам адпаведных юрыдычных і палітычных захадаў стаць фактычным пераемнікам Савецкага Саюзу, але ўжо ў форме клясічнай імпэрыі.

Трэйцяя сіла – Украіна, краіны Балтыі, Малдова й Беларусь, якія вядуць палітыку стварэньня незалежных дзяржаўных структураў, дэмакратычнага ладу, рынкавае эканомікі, інтэграцыі ў Эўропу, адыходу ад Расейскае імпэрыі. Таму паміж гэтымі дзяржавамі й Расеяй аб'ектыўна ўзьнікае супярэчнасьць. Кульмінацыю гэтае супярэчнасьці мы адчулі ў пачатку сьнежня ў часе рэфэрэндуму на Украіне, які парушыў інтарэсы як Цэнтру, гэтак і Ельцына. Разьвіцьцё сітуацыі магло-б пайсьці або па шляху вайсковых прэтэнзіяў, або ў кірунку палітычнага ўрэгуляваньня. І мы сталі сьведкамі заключэньня белавежскіх пагадненьняў паміж Расеяй і Украінай з удзелам Беларусі.

Пагадненьне пра СНД мае часовы характар, бо было падпісанае ў выніку часовага супадзеньня інтарэсаў: імпэрская Расея й незалежная Украіна аб'ядналі намаганьні ў справе зьнішчэньня старога гарбачоўскага цэнтру, які перашкаджаў усім. Аб'ектыўна ў гэтым зацікаўленая й Беларусь. Пасьля таго, як гэтая мэта была дасягнутая, суб'екты СНД пачалі цягнуць коўдру кожны на сябе.

Гэта прадэманстравала менская сустрэча лідэраў СНД, якая адбылася напярэдадні Новага году. Пасьля адыходу Міхаіла Гарбачова ў рамках СНД дамовіцца стала амаль немагчыма. З аднаго боку Расея пры падтрымцы сярэднеазіяцкіх рэспублікаў жадае паступова трансфармаваць п.. адненьне, што ў выніку прывядзе да стварэньня фэдэратыўнай дзяржавы. З другога боку абсалютна абыякавая да праблемаў незалежнасьці й дзяржаўнага будаўніцтва ў суседніх рэспубліках Украіна абараняе ўласны сувэрэнітэт, што зьяўляецца ускосным станоўчым фактарам для аднаўленьня беларускае дзяржаўнасьці, тым больш, што пакуль Леанід Краўчук перамагае.

Што тычыцца Беларусі, дык яна мае лепшыя ўмовы дзеля інтэграцыі ў эўрапейскую сістэму. Нашая дзяржава арыентаваная на вытворчасьць і вываз тавараў і прадуктаў, а не сыравіны. Мы цалкам забясьпечваем свае ўнутраныя патрэбы й шмат што можам экспартаваць (рэспубліка-донар). У нас дастаткова збалянсаваная эканоміка, функцыянуе паўнавартасны народнагаспадарчы комплекс на дастаткова высокім арганізацыйным і тэхнічным узроўні, існуе высокі ўзровень кваліфікацыі рабочай клясы, вялікая канцэнтрацыя інтэлекту: фундамэнтальнай і прыкладной навукі – асноўнай вытворчай сілы на сучасным этапе.

Беларусь мае вялікія запасы сыравіны, у тым ліку й стратэгічнай – гаручых сланцаў, бурага вугалю, жалезнай руды, калійных соляў, далямітаў і нафты. Першапачаткова беларуская нафта здабывалася варварскім спосабам, бо ў СССР нас ніколі не ўспрымалі як нацыю, як народ. Нафты выкачвалі ў 10 разоў больш, чым трэба па тэхналёгіі. Калі апомніліся й зразумелі, што нашая нафта вышэйшае якасьці, многія сьвідравіны замарозілі. Унікальнасьць беларускае нафты палягае на яе «лёгкасьці», здольнасьці адразу ісьці ў нафтаправад. Таму ёю разбаўляюць «тяжкую» расейскую нафту. Калі мы не дамо свае нафты, усе нафтаправоды спыняцца. Ёсьць у нас і радовішчы дыямэнтаў і многае іншае.

Дзеля таго, каб скарыстацца з гэтага багацьця, нам не хапае дзяржаўнага мысьленьня, бо ў часе бальшавіцкага панаваньня была зьнішчаная культура й нацыянальная самасьвядомасьць. У кіраўніцтве стаялі функцыянэры, рэнэгаты, здраднікі, якія ненавідзелі свой народ, сваю зямлю. На гэтым будавалася камуністычная ідэялёгія ў Беларусі.

Цяпер, калі перад намі адкрыліся пэрспэктывы, яны не рэалізуюца, бо ўлада засталася ў руках ранейшай камуністычнай намэнклятуры. Адбываецца далейшае рабаваньне народу, які застаецца голым. І вінаватая ў гэтым не сістэма эканомікі, а бяздарны ўрад і Вярхоўны Савет. Таму БНФ вырашыў праводзіць рэфэрэндум з патрабаваньнем іх адстаўкі.

Найперш нам трэба мець гарантыі сувэрэнітэту й незалежнасьці: свае войска, валюту, мытную службу, мяжу, міжнароднае прызнаньне на ўзроўні пасольстваў. Неабходна ўпарадкаваць падатковую сістэму, каб яна зацікавіла вытворцаў, прыняць антыманапольнае заканадаўства. І толькі потым праводзіць прыватызацыю. І галоўнае – праводзіць дзяржаўную культурную палітыку... Аснова эканомікі – культура. Паняцьце культуры ўключае ў сябе ўсё – і тэхналёгію й мастацтва й духоўнасьць. А пачынаць трэба з адукацыі, зь дзяржаўнай палітыкі нацыянальнай школы. Аднак наш урад праводзіць антыкультурную, антынародную палітыку. У гэтым усё зло. Таму нам неабходны новы ўрад народнага даверу. Калі мы здолеем дамагчыся новага ўраду, дык праз 5–8 год ня толькі станем на ногі, але дасягнем узроўню такіх краінаў як Данія, Фінляндыя й г.д. Гэта не пустыя словы, я маю адпаведныя разьлікі. На жаль, пераменам да лепшага перашкаджае тупасьць нашага дзяржаўнага кіраўніцтва.

Разумеючы гэта, мы павінны ацэньваць нашае стаўленьне да СНД. На першых этапах яно было вызначанае слушна, трэба было ратыфікаваць гэтае пагадненьне, бо гэта была адзіная магчымасьць дэнансаваць саюзны дагавор 1922 году, адклікаць нашых дэпутатаў зь Вярхоўнага Савету СССР, фактычна ліквідаваць СССР і многія ягоныя органы, расчысьціць магчымыя шляхі да сувэрэнітэту, а менавіта ў пытаньнях, зьвязаных з рэспубліканскай валютаю, эканомікай і стварэньнем уласнага войска.

Аднак мы павінны памятаць, што такое Расея, што ёсьць яе гісторыя, яе дыпляматыя, яе мэнтальнасьць, яе нежаданьне выконваць любыя пагадненьні. У дачыненьні да Расеі мы павінны праводзіць узаемаўзгодненую палітыку, па-добрасуседзку жыць зь ёю, гандляваць, наладжваць іншыя сувязі, але ніколі, ні пры якіх абставінах мы не павінны ўступаць з Расеяй ні ў якія палітычныя пагадненьні, ні ў якія палітычныя саюзы. Такое «аб'яднаньне» ўжо было ў канцы 18 стагодзьдзя й у 1922 годзе.

Аб'ектыўна, у інтарэсах нашага народу, у інтарэсах нашае дзяржавы мы павінны ісьці толькі ў Эўропу, мы павінны праводзіць толькі незалежную дзяржаўную палітыку. Але на працягу гэтага году нашае кіраўніцтва не зрабіла нічога, каб умацаваць свой сувэрэнітэт, аслабіць залежнасьць ад расейскай сыравіны.

Калі разглядаць нашую палітыку на пэрспэктыву, аналягічныя адносіны, хоць з пэўнай карэктыроўкаю, у нас павінны быць у стаўленьні да Польшчы. Пры найлепшых дачыненьнях зь ёю мы ніколі не павінны паўтарыць памылку, якая была зробленая ў 1569 годзе. Беларуская гісторыя – гэта найлепшая школа нашай геапалітыкі.

Паводле выступу на сьнежаньскім Сойме БНФ, інтэрвію «Навінам Адраджэньня» і газэце «Свободный Сахалин». Запісаў Валеры Сядоў.
Фота Уладзіміра Сапагова.

## ПРАДЧУВАННЕ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ВАЙНЫ?

Каардынацыйная рада Беларускага згуртавання вайскоўцаў прапанавала заключыць антыкрызіснае пагадненне паміж палітычнымі партыямі і рухамі, прафесійнымі, нацыянальна-культурнымі і грамадскімі арганізацыямі, з аднаго боку, і кіраўнікамі дзяржаўных органаў, з другога.

У прынятым звароце рады гаворыцца, што ў былых рэспубліках Саюза расце палітычная і сацыяльная напружанасць, адначасова адбываецца ўсё большая палітызацыя Узброеных Сіл. Вакол межаў Беларусі блукае прывід грамадзянскай вайны. Існуе і робіцца ўсё больш рэальнай пагроза таго, што кроў і хаос будуць прынесены ў рэспубліку звонку. У той жа час наша дзяржава яшчэ вельмі маладая, яна не мае пакуль уласных узброеных структур, здольных абараніць суверэнітэт Беларусі.

Зыходзячы з гэтага, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў і прапанавала падпісаць антыкрызіснае пагадненне, мэтай якога стала б каардынацыя дзейнасці ягоных удзельнікаў пры ўзніканні крызісу, пад якім разумеецца пагроза беларускай дзяржаўнасці. Прапанавана таксама правесці ў бліжэйшы час пасяджэнне ўдзельнікаў пагаднення і стварыць з іх ліку антыкрызісны камітэт, які б займаўся распрацоўкай, а пры неабходнасці — і рэалізацыяй сумесных дзеянняў у стане крызісу.

БЕЛТА, БелаПАН.

## У АДКАЗ НА ВЯЛІКАІМПЭРСКІЯ ЗАЯВЫ РАСЕЙСКІХ ПРАВАДЫРОЎ АБ ПЕРАГЛЯДЗЕ МЕЖАЎ ДЗЯРЖАВАЎ

Партыя Нацыянальнае Незалежнасьці Казахстану высунала на сваім Зьездзе ў Алма-Аце дамаганьне звароту ад Расейскай Рэспублікі калісь захопленых і калянізаваных земляў. Елцын — галасілі плякаты — вярні адарваныя ад нас землі: Чалябінску, Омску, Волгаграду, Самары...

РУХ

# БЕЛАРУСКІЯ САЦЫЯЛЬ - ДЭМАКРАТЫ СПРАБУЮЦЬ ПЕРАНЯЦЬ ІНІЦЫЯТЫВУ Ў БНФ

*18 студзеня пленум Беларускай сацыяль-дэмакратычнай Грамады прыняў пастанову пра стварэньне грамадзка-палітычнага блёку «Новая Беларусь», які мусіць аб'яднаць усе дэмакратычныя сілы Рэспублікі на грунце абароны сувэрэнітэту. Ідэя новага блёку знайшла падтрымку ва ўплывовых урадавых колах, і, найхутчэй, будзе прывітаная экс-камуністамі. Фронт пастаўлены перад пэрспэктываю адыходу на пазыцыі правага радыкалізму.*



Як вядома, парлямэнцкая Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту выступіла зь ініцыятываю правядзеньня рэфэрэндуму аб датэрміновай адстаўцы Вярхоўнага Савету й арганізацыі новых выбараў паводле законапраекту аб выбарах, які быў падрыхтаваны БНФ. Гэтая прапанова Фронту была адразу-ж падтрыманая ўсімі палітычнымі партыямі Рэспублікі, што адлюстравалася ў супольнай заяве ад 11 студзеня гэтага году.

Выключэньнем стала толькі Беларуская сацыяль-дэмакратычная Грамада, прадстаўнікі якое прынцыпова не згадзіліся зь ідэяй рэфэрэндуму, маўляў, працэс зьмены парлямэнту зойме даволі доўгі час, на які Рэспубліка застанецца ў руках пракамуністычнага Савету міністраў, акрамя таго ў выніку новых выбараў да ўлады могуць прыйсьці палітыкі кшталту Жырыноўскага. Было гэтаксама заяўлена, што пытаньне ўдзелу або няўдзелу Грамады ў падрыхтоўцы да рэфэрэндуму ёсьць кампэтэнцыяй Цэнтральнай рады партыі. Найболей актыўнымі працаўнікамі ініцыятывы Апазыцыі ёсьць Анатоль Гурыновіч, Анатоль Сідарэвіч і Уладзімір Леўшуноў. І хаця пленум Грамады 18 студзеня прыняў-такі рашэньне ўзяць удзел у міжпартыйнай акцыі рэфэрэндуму, гэта выглядала хутчэй як жэст, які засьведчыў, што партыя пакуль асьцерагаецца абвастраць адносіны з БНФ.

Што тычыцца ўласна ідэі рэфэрэндуму, то рэальнасьць яе рэалізацыі сапраўды выглядае спрэчнай, аднак той факт, што на Беларусі дагэтуль не адбыліся дэмакратычныя выбары, што Рэспублікаю кіруе парлямэнт КПБ–КПСС, сьведчыць – рэфэрэндум як сродак дэмакратычнае зьмены прадстаўнічае ўлады надзвычай актуальны.

Тым часам, сытуацыя з рэфэрэндумам стала, фактычна, першай публічнай спрэчкаю паміж Грамадой і Беларускім Народным Фронтам, у часе якой сацыяль-дэмакраты заявілі, што будуць праводзіць уласную палітычную лінію. Аднак карані канфлікту губляюцца ў часох заснаваньня Фронту.

Беларускі Народны Фронт паўстаў у 1988 годзе як антыкамуністычны, альтэрнатыўны КПБ-КПСС рух. Другім пасьля антыкамунізму палітычным лёзунгам Фронту стала нацыянальнае адраджэньне. І хаця БНФ па сваёй будове й закладзеных ад самага пачатку прынцыпах нагадваў партыю, у 1988 ён ня мог быць арганізаваны як партыя, у гэтым, дарэчы, на мой погляд, ёсьць адна з хібаў ягонага цяперашняга становішча.

Тады й зараз ідэя нацыянальнага фронту дэмакратычных сілаў была й застаецца найболей надзённай і патрэбнай для грамадзтва. Аднак ні ў 1988 ні цяпер БНФ ня здолеў заняць палітычны цэнтар і стаць масавым рухам. Наадварот, на мяжы 1990–91 у ім пачалося драбленьне, вынікам якога стала вылучэньне з БНФ цэлага шэрагу палітычных партыяў. Аднак больш-менш сур'ёзную ролю ў палітычным спэктры Рэспублікі здолелі ўзяць толькі сацыяль-дэмакраты й Аб'яднаная дэмакратычная партыя. Нагадаю, што старшыня БСДГ Міхась Ткачоў пачаў сваю палітычную кар'еру менавіта ў Фронце й да пераходу ў Грамаду займаў пасаду намесьніка старшыні Сойму БНФ. Тое самае тычыцца й большасьці іншых сацыяль-дэмакратаў, якія ўключыліся ў палітычны працэс менавіта праз Фронт.

У часе 2-га зьезду БНФ, які адбыўся ў Менску 23–24 сакавіка мінулага году, кіраўніцтва Фронту зрабіла спробу сьціўшыць распаўзаньне сілаў і зноў аб'яднаць новыя партыі пад дахам БНФ у якасьці калектыўных членаў. Дзеля гэтага ў Статуце былі прадугледжаныя зьмены на карысьць сынтэзу пэрсанальнага й калектыўнага сяброўства ў Фронце з выдзяленьнем партыям сталай квоты ў Сойме. Прадстаўнікі-ж іншых палітычных структураў у пераважнай большасьці настойвалі на канцэпцыі фронту як чыстай канфэдэрацыі партыяў, падставай для аб'яднаньня якіх мусіла стаць ня ўласная праграма БНФ, а шэраг агульных прынцыпаў, што адпавядала-б клясычнай мадэлі народнага фронту. Нагадаю, што была прынятая рэдакцыя кіраўніцтва БНФ, якая прывяла да таго, што Фронт стаў арганізацыяй зь яскрава выражанымі прыкметамі партыі (наяўнасьць пэрсанальнага сяброўства, выплата сяброўскіх складак). Тады жаданьне стаць калектыўным сябрам БНФ выказала Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі, прадстаўнікі іншых партыяў захавалі за сваімі ўдзельнікамі толькі права пэрсанальнага сяброўства ў БНФ.

Калі гаварыць пра далейшую эвалюцыю Фронту, пасьля выбараў у існы Вярхоўны Савет у ім яскрава вызначыліся дзьве плыні: парлямэнцкая Апазыцыя й уласна рух. Прычым парлямэнцкая Апазыцыя, якая ёсьць працэнтова невялікай часткаю БНФ, па выніках свае працы амаль цалкам перакрывае эфэктыўнасьць дзейнасьці другое плыні. У тым, што здарылася менавіта гэтак, адыгралі сваю ролю як аб'ектыўныя, гэтак і суб'ектыўныя чыньнікі. Па-першае, нэрв палітычнага жыцьця зьмясьціўся ў Вярхоўны Савет, па-другое, у Фронце фактычна спыніўся прыток новых людзей. Тым часам: нібы лякаматыўная сіла, што цягне Рэспубліку зь бездані камунізму й эканамічнага хаосу, – парлямэнцкая Апазыцыя БНФ – ня мае сабе роўных, аднак ва ўмовах абсурднага Вярхоўнага Савету й палітычна недаразьвітага грамадзтва яна абапіраецца толькі на ўласныя сілы й працуе, практычна, на мяжы магчымага. Праўда, апошнім часам пачалі акрэсьлівацца пэрспэктывы саюзу з напалоханымі новым падатковым заканадаўствам прадпрымальнікамі. Ягонымі ініцыятарамі выступілі біржавікі.

З другога боку ўсё больш відавочнай пагрозаю нацыянальнаму сувэрэнітэту становіцца тэндэнцыя да росту нестабільнасьці на абшарах магутнага ўсходняга суседа. Магчымасьць дзяржаўнага перавароту ў Расеі вымагае кансалідацыі ўсіх дэмакратычных сілаў Беларусі на падставе абароны незалежнасьці ў форме клясычнага фронту. Гэтага-ж патрабуе й адсутнасьць на Беларусі палітычнага цэнтру.

У новай палітычнай сытуацыі, калі стэрэатып першаснасьці дзяржаўных інтарэсаў становіцца законам як для правых, гэтак і для левых, улічваючы й незарэгістраваную партыю камуністаў Беларусі, БСДГ вырашыла перахапіць ініцыятыву ў справе стварэньня палітычнага цэнтру.

Як вядома, сьвятое мейсца не пустуе, і 18 студзеня пленум Грамады выступіў з прапановаю стварэньня своеасаблівага новага руху – грамадзка-палітычнага блёку «Новая Беларусь». Сацыяль-дэмакраты запрашаюць у блёк усе палітычныя партыі, рухі, грамадзкія й прафэсійныя аб'яднаньні, якія гатовыя абараняць сувэрэнітэт Рэспублікі й выпрацаваць «рэальную» праграму выхаду з крызысу. Мяркуючы па тым, што ў працы пленуму ўзяў удзел міністар замежных справаў Пётр Краўчанка, які багаславіў ідэю «Новай Беларусі», акрамя іншага сацыяль-дэмакраты разьлічваюць прыцягнуць у блёк чыноўнікаў больш-менш прагрэсыўных перакананьняў. На глебе абароны сацыяльных правоў вайскоўцаў Грамада ўзмацніла працу ў войску. Кіраўніцтва БНФ на пленуме БСДГ не прысутнічала.

Фактычна, зроблены крок да расколу паміж БНФ і іншымі палітычнымі арганізацыямі, якія, разумеючы важнасьць нацыянальнае кансалідацыі, далучацца да «Новай Беларусі». Вынікам расколу можа стаць адштурхоўваньне Фронту на надзвычай няўдзячныя пазыцыі правага радыкалізму. Тым часам, як любы народу цэнтар займуць сацыяль-дэмакраты, што само па сабе выглядае ў пэўнай меры абсурдным. БСДГ ні ў якім выпадку ня ўпісваецца ў клясычную мадэль кансэрватыўнага палітычнага цэнтру, а спавяданыя яе сябрамі сацыялістычныя ідэі й каштоўнасьці трывала замацаваныя ў клясычным спэктры за левымі сіламі.

Наступствы рэалізацыі ідэі «Новай Беларусі» пры пэўным зьбегу акалічнасьцяў могуць самым кардынальным чынам паўплываць на пэрспэктывы далейшага разьвіцьця Рэспублікі. Мяркуючы па блізкасьці камуністычнай і сацыялістычнай ідэяў роўнасьці й разьмеркаванай дзяржаваю сацыяльнае справядлівасьці, а таксама наяўнасьці вялікае кагорты застаўшыхся часткаю бяз справы, а часткаю пры ранейшых «адказных» партфэлях былых членаў КПБ–КПСС, можна чакаць, што блёк будзе падтрыманы гэтымі людзьмі й у хуткім часе значна палявее.

Ірына Лазоўская

## Пастанова Цэнтральнай Камісіі па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь

У сувязі з узнікшымі пытаннямі па прымяненню артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» на падставе пункта 1 артыкула 17 гэтага Закона Цэнтральная Камісія па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

З мэтай аднастайнага прымянення артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» растлумачыць, што:

1. Пячаткай выканаўчага і распарадчага органа гарадскога, раённага ў горадзе, пасялковага, сельскага Савета народных дэпутатаў на падпісным лісце засведчваецца ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» завяраючы подпіс старшыні ініцыятыўнай групы, а не факсіміле яго подпісу.

2. Закону «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» не супярэчыць раздзельнае засведчванне подпісаў старшыні і члена ініцыятыўнай групы з адпаведным запісам аб гэтым у падпісным лісце.

3. Завяраючыя подпісы старшыні і члена ініцыятыўнай групы ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» засведчваюшча пячаткай выканаўчага і распарадчага органа гарадскога, раённага ў горадзе, пасялковага, сельскага Савета народных дэпутатаў. Гэтымі органамі з'яўляюцца выканкомы вышэйназваных Саветаў народных дэпутатаў, якія засведчваюць названыя подпісы сваёй гербавай пячаткай. У тых Саветах, дзе выканкомы не ўтвораны, функцыі выканаўчага і распарадчага органа выконвае старшыня адпаведнага Савета. Пячатка агульнага аддзела ці іншых органаў выканкома не з'яўляецца пячаткай выканаўчага і распарадчага органа.

4. Зыходзячы з патрабаванняў частак першай і трэцяй артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» збор подпісаў грамадзян на падпісных лістах рэферэндуму павінен ажыццяўляцца толькі членамі ініцыятыўнай групы рэферэндуму пры наяўнасці ў кожным падпісным лісце прозвішча, імя і імя па бацьку члена ініцыятыўнай групы, які ажыццяўляе збор подпісаў. Прадстаўляць падпісныя лісты ў выканаўчы і распарадчы орган мясцовага Савета народных дэпутатаў для засведчвання пячаткай павінен член ініцыятыўнай групы, які ажыццяўляў збор подпісаў. Гэта звязана з тым, што пры засведчванні падпіснога ліста пячаткай могуць узнікнуць пытанні, адказ на якія можа даць толькі той, хто збіраў подпісы.

5. Права выканаўчага і распарадчага органа мясцовага Савета народных дэпутатаў на праверку пры неабходнасці подпісаў грамадзян на падпісных лістах прадугледжана часткай чацвёртай артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь». Без падпісных лістоў выканаўчыя і распарадчыя органы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў не могуць ажыццявіць гэтага свайго права. Калі член ініцыятыўнай групы адмаўляецца даць падпісныя лісты выканаўчаму і распарадчаму органу для праверкі, праверка дакладнасці запісаў у падпісным лісце ажыццяўляецца прадстаўніком выканаўчага і распарадчага органа з удзелам члена ініцыятыўнай групы.

6. Наяўнасць у падпісным лісце подпісаў грамадзян, якія пражываюць у іншым раёне, горадзе, раёне ў горадзе, не супярэчыць патрабаванням артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь». Але ў адпаведнасці з часткай чацвёртай гэтага артыкула выканаўчы і распарадчы орган мясцовага Савета народных дэпутатаў можа пры неабходнасці праверыць праўдзівасць подпісаў грамадзян на падпісных лістах. Гэта можа быць зроблена шляхам асабістай гутаркі, запытаў па месцы яго жыхарства і г. д.

20 сакавіка 1992 г.

**Старшыня Цэнтральнай Камісіі па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь А. АБРАМОВІЧ.**

**Сакратар Цэнтральнай Камісіі па рэферэндуму Рэспублікі Беларусь І. ЛІХАЧ.**

## Аб растлумачэнні пытанняў, якія ўзніклі пры прымяненні артыкула 11 Закона «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь»

# Калі суверэнітэт Беларусі апынецца ў небяспецы, «правыя» і «левыя» будуць змагацца па адзін бок барыкад

Калі ў некага за межамі Беларусі ўзнікне ідэя стварыць што-небудзь накшталт новага ГКЧП або якімсьці іншым чынам упіхнуць незалежныя краіны ў граніцы былога СССР ці Расійскай імперыі, ён павінен улічыць адну акалічнасць: у нашай рэспубліцы яму давядзецца мець справу не толькі з законна выбранымі органамі ўлады, але і з Антыкрызісным камітэтам, які спецыяльна для падобных выпадкаў створаны ў мінулую суботу.

Якая б бездань ні раздзяляла «правых» і «левых», з якім бы імпэтам ні вяліся палітычныя баі паміж рознымі партыямі і рухамі,— аказалася, ёсць ідэя, што здольна аб'яднаць самых заўзятых радыкалаў і самых рашучых кансерватараў. Ідэя гэтая — суверэнітэт Рэспублікі Беларусь і тая пагроза, якая можа ўзнікнуць для гэтага суверэнітэту па прычыне цяжкапрадказальных працэсаў, што адбываюцца на тэрыторыі былога СССР.

У суботу ў Доме літаратара можна было назіраць карціну, якую нячаста ўдаецца пабачыць: лідэры ўсіх асноўных партый, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў сядзелі за адным сталом і цалкам пагаджаліся адзін з адным. Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч з лідэрам БНФ З. Пазьняком — па правую руку і старшынёй Сацыял-дэмакратычнай Грамады М. Ткачовым — па левую, магло здацца, забылі пра свае рознагалоссі і гатовы працягнуць адзін аднаму руку падтрымкі і дапамогі.

29 палітычных партый і рухаў, прафсаюзаў, грамадскіх арганізацый і дзяржаўных органаў падтрымалі ідэю, прапанаваную Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў. Калі ўлічыць, што ў ліку гэтых 29-ці — кіраўнікі парламента і ўрада, а таксама ключавых міністэрстваў,— можна прыйсці да высновы, што новае аб'яднанне — рэч зусім не другарадная.

Многія сёння задаюць пытанне: ці існуе настолькі сур'ёзная пагроза дзяржаўнасці Беларусі, каб ствараць такі камітэт? На думку С. Шушкевіча, пагроза такая ўзнікае штогадзінна, і ў такой сітуацыі нельга займацца палітычнымі гульнямі. Станіслаў Станіслававіч таксама зазначыў, што ў захапленні ад ідэі, прапанаванай БЗВ, і ахвотна паставіў подпіс пад тэкстам антыкрызіснага пагаднення.

На сходзе выбрана выканаўчая рада Антыкрызіснага камітэта, у склад якой увайшлі прадстаўнікі міністэрстваў унутраных спраў, інфармацыі, замежных спраў, Камітэта дзяржбяспекі, Мінгарсавета, БНФ, БСДГ, свабодных прафсаюзаў, Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Старшынёй Антыкрызіснага камітэта абраны В. Кебіч.

Наўрад ці варта перабольшваць значэнне толькі што ўзнікшага аб'яднання. Зусім відавочна: з'яўленне камітэта ніяк не паўплывае ні на вастрыню палітычнай барацьбы ў рэспубліцы, ні на глыбіню крызісу, які ўсё больш ахоплівае грамадскае і эканамічнае жыццё. І ўсё ж нельга не вітаць яго стварэнне хоць бы таму, што ў самых розных палітычных колах выспела ўсведамленне таго, што ёсць у нашага народа агульныя каштоўнасці, дзеля абароны якіх варта забыць пра крыўды, рознагалоссі, уласныя палітычныя інтарэсы.

Адметны факт: сярод падтрымаўшых ідэю пагаднення няма кіраўнікоў Партыі камуністаў Беларусі, а таксама Беларускай ваеннай акругі. Зусім магчыма, што адносіны да новаўтворанага аб'яднання з боку розных палітычных і дзяржаўных арганізацый стануць своеасаблівым індыкатарам для вызначэння іх стаўлення да дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## КОЖНЫ ДБАЕ ПА-СВОЙМУ

**ГОМЕЛЬ (У. Пернікаў). З дзяржаўнымі сцягамі былога Савецкага Саюза і Беларускай ССР у мінулую нядзелю выйшлі сотні жыхароў абласнога цэнтра на плошчу Паўстання. Тут адбыўся мітынг, арганізаваны рухам «Адзінства і справядлівасць».**

Удзельнікі яго гаварылі аб тым, якую бяду прынёс народу палітычны і эканамічны развал СССР, ганьбілі Вярхоўны Савет рэспублікі за тое, што ён не ўлічыў волю народа, які год назад на рэферэндуме выказаўся за адзінства СССР і прагаласаваў за суверэнітэт рэспублікі. У прынятай рэзалюцыі знайшлі адлюстраванне такія пункты, як правядзенне паўторнага рэферэндуму, дзе кожны чалавек мог бы выказацца па пытанню аб адзінстве Савецкага Саюза. Што ж, кожны дбае аб рэспубліцы пасвойму.

## ШАЛІ ВАГАЮЦЦА...

**МАГІЛЁЎ (А. Санчук). Абласны сацыялагічны цэнтр правёў даследаванне сярод жыхароў горада з мэтай высветліць адносіны насельніцтва да рэферэндуму. Метадам ананімнага анкетавання апытана 647 чалавек. Вынікі наступныя: за правядзенне рэферэндуму выказаліся 32,1 працэнта апытаных, супраць —34,8, а кожны трэці (33 працэнты) яшчэ не зрабіў выбару.**

# Віцебск вітае лідэраў БНФ!

*Нягледзячы на тое, што старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч забараніў народным дэпутатам ад апазіцыі выязджаць на службовым транспарце за межы Менска, яны ж, як і належыць народным, сустракаюцца з насельніцтвам. Толькі што пабывалі ў Віцебску, дзе былі надзвычай цёпла сустрэты гараджанамі.*



**Добра вядома, што прадстаўнікоў ад апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Орша сустракала шматлюднай аўдыторыяй. Тым не менш, некаторым сабкорам хацелася прадставіць сустрэчу з ёй, як паўпустую залу, што і зрабілі яны, папіраючы святую праўду. Можа, гэткага ж хацелася б некаторым і з Віцебскай прэсы, асабліва тым, хто піша пад зняважлівай рубрыкай «Демократические посиделки» матэрыяльчыкі наконт «Гидра большевизма и 70 демократов», («Віцьбічы»). Аднак тысячы гараджан, дзесяткі журналістаў, у тым ліку з рыдыё і тэлебачання, не дадуць нахлусіць і на гэты раз, бо «демократические посиделки» праходзілі пры перапоўненых залах гарадскога Дома культуры і асабліва Палаца прафсаюзаў (парк Фрунзе). Гэта— нягледзячы на тое, што тамсям у нашым горадзе ўсё ж імкнуліся сарваць афішы, якія паведамлялі аб прыездзе прадстаўнікоў Беларускага Народнага Фронту.**



Такога паломніцтва людзей, што пацягнуліся па закліку душы на сустрэчу з «так званым» у нядаўнім мінулым лідэрам «так званага» БНФ, мусіць не прыпомніць наш Віцебск. І, не сумняваюся, многіх прыхільнікаў камуністычнай ідэалогіі (а яны былі таксама) агарнуў непрыязны смутак і безвыходнасць, бо не змаглі яны не прыпомніць, як на партыйныя сходкі, калі прыязджаў які-небудзь сакратар ЦК, трэба было хадзіць ледзь не з-пад палкі, у страху, што ад неяўкі «последуют оргвыводы».

Вось яна, свядомасць людзей—лакмусавая паперка нашага часу: ад гістарычных форумаў па прымусу да «демократических посиделок» працягласцю ў чатыры гадзіны з бясконцымі балючымі пытаннямі.

Пад апладысменты сотняў віцябчан увайшлі ў залу дэпутаты ад апазіцыі.

Характарызуючы крызіснае становішча ў беларускай дзяржаве, старшыня Сойму БНФ Зянон Станіслававіч Пазьняк, які першым узяў слова, пераканаўча адзначыў, што эканамічныя пытанні нельга вырашыць без вырашэння пытанняў палітычных. Сённяшні склад Вярхоўнага Савета быў абраны на недэмакратычнай аснове і прызначаўся для «пабудовы камунізму», павінен быў галасаваць за тое, што ўжо даўно вырашыла Масква.

—Цяпер мы незалежная дзяржава,—гаварыў лідэр ад апазіцыі,—таму павінны весці незалежную палітыку. Камунізм знік, а яго орган —Вярхоўны Савет—застаўся. Ён не жадае, а хутчэй не ўмее працаваць, стаў нежыццяздзейным. Настаў час аб правядзенні ўсебеларускага рэферэндуму па выказванню Вярхоўнаму Савету недаверу, а таксама адстаўцы ўрада.

У сваім выступленні, у адказах на шматлікія запіскі народны абраннік абгрунтаваў прычыны недзеяздольнасці Савета і неабходнасці яго замены, развянчаў абарончую прапаганду прэсы і некаторых асоб у тым, што «коней на пераправе не мяняюць».

Аўдыторыя ў цэлым зразумела, што ў экстрэмальных умовах на пераправе можа быць замена, асабліва, калі «конь здох».

З усебаковым і дэталёвым абгрунтаваннем эканамічнай праграмы выступіў Уладзімір Заблоцкі, а сустаршыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў У. Савянок давёў да слухачоў аб мэтазгоднасці ўласнай арміі і ўласнай вайсковай палітыкі.

На шматлікія пытанні адказаў народны дэпутат Сяргей Навумчык.

Нязначную, але беспрэтэндэнтную па сваёй бестактоўнасці замінку ўнёс «фермер» з-пад Верхнядзвінска, які як актыўны ўдзельнік новых партыйных фарміраванняў камуністаў выступае супраць уласнасці на зямлю і за рэанімацыю СССР. Ён бесцырымонна ўзышоў на трыбуну са сваёй паўсямеснай прагай паведаміць аб пражэктах «государственного обустройства» ў той час, калі дэпутаты давалі адказы на шматлікія пытанні прысутных.

Слухаць «фермера» і актывіста руху за сацыяльную справядлівасць чамусьці не пажадалі.



На наступны дзень дэпутаты ад апазіцыі сустрэліся з М. А. Федарчуком (па ВС не помняць), на прадпрыемствах, а вечарам зноў са шматлікімі гараджанамі ў тэатры Імя Якуба Коласа.

**Яўгенія МАЛЬЧЭЎСКАЯ.**

## Хаця пра пралетарыяў і не ўспомнілі...

**Прыхільнікі «сацыялістычнага выбару» ў Слуцку, здаецца, пачалі выходзіць з акопаў. Нядаўна ў раённай газеце з'явілася аб'ява аргкамітэта па стварэнню гарадской арганізацыі партыі камуністаў Беларусі.**

Камітэтчыкі звярнуліся да ўсіх членаў былой КПСС з заклікам прыйсці на рэгістрацыю, мець пры сабе партыйны білет. І адрас указалі: Дом Саветаў, першы паверх, пакой № 112. Там пастаянна дзяжурыць «свой» чалавек з ліку пенсіянераў. А каб надаць кампаніі масавасць, члены аргкамітэта расклеілі на аўтобусных прыпынках і ў іншых месцах прапагандысцкія, у стылі Ніны Андрэевай, абвесткі, аддрукаваныя на рускай мове, пад рубрыкай: «Все, кто за коммунистический путь, объединяйтесь!». Да пралетарыяў усіх краін, як бачыце, ужо не звяртаюцца — такі заклік наказаў доўга жыць. І не да «путей» сёння пралетарыю, калі кожны думае, як выжыць ва ўмовах разгулу свабодных цэн. Ды і былыя партыйцы не сталі ля дзвярэй пакоя 112 у шчыльную чаргу на рэгістрацыю. У першы дзень туды прыйшоў... адзін чалавек, пенсіянер. За тыдзень завіталі трыццаць, таксама пераважна з ліку ветэранаў.

**Міхась КАСТРЫЦКІ.**

## ЧАМУ «МЭРЫЯ», А НЕ ГІСТАРЫЧНЫ БЕЛАРУСКІ БУРМІСТРАТ?

Менскі Гарсавет мае зьмяніць свой накінены Саветамі назоў Гарадскіх уладаў, і Старшыня Гарсавету Менску мае называцца «Мэрам» па прыкладу Масквы. Дзіўна, чаму не гістарычна Беларускім «Бурмістар» і не «Лава Радных» і г.п., гістарычнымі Беларускімі назовамі. Пашто зараз малпаваць Маскву?

# Хроніка

### ЗАМЕЖНЫ БІЗНЕС НА БЕЛАРУСІ

На спатканьні ў пэнсыянаце «Сосны» на возеры «Сьвслач» Замежныя бізнэсысты і іхныя Беларускія партнэры з супалак «Тэхнапровіс» і «Альбатэсс» выпрацавалі поўмільярдны праэкт для Беларусі, ў якім удзельнічаюць Замежныя банкі.

### ГОЛАС З КАЗАХСТАНУ

...Цешымся, што вы там жывяце не забываючы Бацькаўшчыны. У нас тутака на ўнутранай эміграцыі шмат, ды жывуць у разброд, не братаюцца! Нас не навучылі гэтага!... Нізкі вам паклон за гэтае!... Вельмі цяжка нашым старэчам. На пэнсыю не разгонісься!...

### ЗАМЕСТ ВУГАЛЮ — МАРКСА-ЛЕНІНСКАЯ МАКУЛЯТУРА

«Знамя Юнасті» падае, што ў Марыюпалі ў Мартэнаўскіх печах «Азоўмаш» для тапленьня сталі, замест вугля зужыта 2 цягаровыя аўты кнігаў прац Энгельса, Маркса і Леніна з хвабрычнай бібліятэкі. Вось як даела работнікам «любімая партыя»!

### «НАРОДНЫЯ ДЭПУТАТЫ!»

У «Народнай Газэце» П. Абакунчык піша: ...Ці бачаць, ці адчуваюць нашае Беларускае грамадзтва і наша Беларуская ўлада тое, што мы амаль страцілі сваю нацыянальную сьвядомасьць, нашы нацыянальныя рысы жыцьця, яго каларыт, нашу нацыянальную культуру? Што мы страчваем дадзеннае Богам права быць і заставацца Беларусамі, гаспадарамі краіны, імя якой Беларусь? Калі гаварыць аб правах, хочацца спытаць, ці адчуваюць нашыя заканадаўцы зьнявагу да нашай нацыянальнай спадчыны, яе поўную безбароннасьць? Ці бачыцца тым, хто праз цьвердае ажыцьяўленьне законаў павінен гарантаваць нашу будучыню, тое што мы страчваем — гэта самае галоўнае, па чым пазнаецца народ, нацыя — наш нацыянальны твар, матчыну мову? Прыслухайцеся! Яе ўжо ня чуваць! Удумайцеся ў гэта, паважаныя Дэпутаты. Ці-ж гэта ня сорам?!...

### ПРАСЬПЕКТ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў МЕНСКУ

Гарсавет Менску мае перайманаваць Праспект Леніна на Праспект імя Францішка Скарыны. Вуліцу Максіма Горкага на вуліцу Максіма Багдановіча, дасюлешнюю вуліцу М. Багдановіча на вуліцу Янкі Лучыны. Маюць быць перайменаваныя вуліцы Сьвярдлова, Валадарскага, Урыцкага і іншых камуністычных катаў, як і вуліцы: Розы Люксэмбург, Маркса і Леніна.

### ЖЫДОЎСКІ ТЭАТР ШАЛОМ Ў БССР

/С. Резьнік — гутарка з Левенбрукам/

Карэспандэнт НРС падае: Прыеджаем мы з групай у Магілёў. Перад гэтым былі ў Менску. Выступалі ў залі Фільгармоніі, поўныя аншлягі, вялікі посьпех. А тут — ў залі на тысячу мейсц, ледзь налічылі 100 асоб. Мы здэтанаваныя, прабуем выясьніць, што гэтае значыць? Аказваецца быў пушчаны слых, што вось калі прыедзе тэатар — Жыды зьбяруцца разам, дык тут і будзе ўладжаны пагром. Сотка самых адважных прыйшла, рэшта пабаялася. Я выйшаў на авансцэну, сказаў што пагром адмяняецца, замест яго будзе Канцэрт. На наступны дзень было болей народу, а на трэці мы ўжо ад'яжджалі. У другім Беларускім горадзе также выступалі пры пустой залі, таму што ня было вывешана ані адное афішы. Нават на Доме Культуры, у якім мы выступалі афішы ня было, і людзі проста ня ведалі аб нашым прыезьдзе. Арганізатары суменна прызналіся, што ўпрост пабаяліся іх разьвесіць... /НРСлово/

Сьв. ✝ Пам.
СЬЦЯПАН ГАРКУША
Парахвіянін Беларускай Праваслаўнай Царквы сьв. Еўфрасіні Полацкай. Памёр у Таронце 12 Сакавіка 1992 году.
Меў 85 год. Паходзіў з усходняе Беларусі-Браншчыны - Анэксаванае да Расейскай Рэспублікі

Уладзімер **ПЕЦЮКЕВІЧ**

## НАВОШТА?

Я аднаго не разумею,
Бо немагчыма зразумець:
Навошта мары і надзеі,
Калі за імі не ляцець?

Нашто было трывожыць цішу —
Нам незалежнасьць абвяшчаць?
Калі, як пад мятлою мышы,
Сядзім пад грозным:
Не пішчаць!

Ну што з таго? Дакляравалі,
Паперку выдалі ў народ:
Чытайце, дурні, вы чыталі
Падобную ўжо колькі год!

І канстытуцыю абновім —
Чарговы лозунг з-пад пяра...
З Саюза выйсьці?
Ну, шаноўны,
А як жа быць нам без цара?

А хто ж тады над намі будзе
Рабіць жывы эксперымент?
Хто скажа: беларусы — людзі,
Маўчаць, калі гамоніць сьвет?!

Маўчым, бо слоў сваіх не маем:
Згубілі ў моры слоў чужых —
І зорка злая нас карае,
І сьвечка матчына дрыжыць!

Маўчым — ні крыўды, ні агіды,—
Як рыба ў тручанай вадзе,
Ямо нітраты і нукліды —
Курган ахвяраў наш расьце!



СЬВЯТКАВАНЬНЕ ТЫДНЯ ГРАМАДЗЯНСТВА
Магдалена Хмаранка у размове з Прам'ер-Міністрам Канады,Браянам Малруні

## ВЕСТКІ ЗДАЛЁКУ І ЗБЛІЗКУ

Рашэньнем Менскага гарадзкога Савету народных дэпутатаў пацьверджаны герб, які быў нададзены гораду 400 гадоў назад — 12 студзеня 1591 г. у выніку атрыманьня ім Майдэборскага права. Менскі гарадзкі Савет зьвярнуўся ў ВС Рэспублікі Беларусь з прапановаю вярнуць нашай сталіцы яе гістарычную назву — Менск. У 1939 г. Вярхоўны Савет БССР зьмяніў гістарычную назву сталіцы Беларусі Менск на «Минск». Назва «Менск» не падабалася тагачасным старшыні ВС БССР Грэкавай — былой швачцы фабрыкі «Кастрычнік», наркому асьветы Уралавай — было іванаўскай ткачысе, і ім падобным, хто быў ва ўладзе.

Цяпер на старонках некаторых газэт ідзе абмеркаваньне, ці вяртаць сталіцы яе спрадвечную назву. Выяўляецца, што швачак і ткачых, шаўцоў і краўцоў, у якіх цалкам адсутнічае гістарычная памяць, у нас значна пабольшала.

* * *

У Менску створана Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў (БЗВ). Паводле статуту БЗВ зьяўляецца грамадзкім рухам, мэта якога — садзейнічаць стварэньню беларускага войска, абарона дэмакратыі і дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі. Пра далучэньне да БЗВ заявілі суполкі беларускіх вайскоўцаў з Масквы, Казахстану, Цьверы, Якутыі, Барысава і Менску.

* * *

Генеральны консул Рэспублікі Польшчы пан Тадэвуш Мысьлік завяршыў сваю місію ў Менску на гэтай пасадзе. (10 верасьня ў Генеральным консульстве адбыўся прыём з гэтае нагоды. Новым Генеральным консулам Рэспублікі Польшча ў Беларусі стала пані Эльжбета Смулкова. Раней яна ўзначальвала кафедру беларускае філалогіі ў Варшаўскім універсітэце.

* * *

Сесія Менскага гарадзкога Савета даручыла дэпутацкай камісіі па культуры, ахове і адраджэньні гісторыка-культурнай спадчыны вырашыць пытаньне пра новую назву цяперашніх пляца Леніна і Ленінскага прасьпекта з улікам прапаноў народных дэпутатаў і жыхароў горада. Менгарвыканкомам да 1 сакавіка 1993 г. павінен быць ажыцьцёўлены комплекс мер па добраўпарадкаваньні пляцу.

### БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА

Справа беларускага войска пакуль што ня то каб дужа спрэчнымі шагамі, але ўсё-такі ідзець наўперад. Нядаўна Беларуская Вайсковая Камісія, зложаная з якіх 40 асоб або 50, выехала ў Менск, як у сэрца Беларусі.

У Вільні астаўся запасны аддзел беларусаў-ваякоў.

Кажуць, што ў Варшаве будзе вайсковая школа для беларускіх ахвіцэраў, як быццам у Менску на гэта няма месца.

Пачатак набору беларускіх жаўнераў пачнецца ў Слоніме Гродзенскай губэрні.

Наагул выглядае так, што недахвату беларускіх вайсковых сіл ня будзе.

### БЕЛАРУСЬ І УКРАІНА

Беларускі ўрад і Украінскі, перагаварыўшы між сабой, пастанавілі зрабіць такі абмен таварамі: *Беларусь Украіне* — 1) дровы для будовы, 2) лён і сукно, 3) скуры і мыла, 4) хмель, яблыкі, грушы, грыбы і іншыя гаспадарскія прадукты, 5) розныя вырабы з дрэва, сьпірт, тэрпэнтына, дзёгаць, нафталіна і іншыя, 6) розныя вырабы з дзеравянай масы: кардон і папяровыя тканіны, 7) прадукты арганічных матэрыялаў, лекарскія і іншыя прылады арганічнай тэхналёгіі, 8) сернікі, фанер, паркет, 9) вырабы мінэральнай тэхналёгіі: шкло, цэмэнт, суперфасфат і іншыя.

*Украіна Беларусі:* 1) Цукру 50.000 пудоў, 2) пшаніцы — 200.000 пудоў, 3) лёгкага тытуню — 300.000 пудоў, махоркі — 500.000 пудоў, 5) худобы: коней — 50.000 штук, рагатага быдла — 80.000 штук, ценкашэрсных авечак — 25.000 штук сьвіней — 20.000 штук.

### ДРАБНІЦЫ З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСІ

/Берасьцейскі Кур'ер/. У Менску ў буфэце на Вакзале каб атрымаць вілку да замоўленай еды, трэ' класьці 2 рублі залогу. У Берасьці наагул не падаюць відэльцаў.

## Былі розныя партызаны

**Артыкул С. Украінкі «Соль на загоеных ранах», надрукаваны ў 50-м нумары «ЛіМа» за мінулы год, вельмі ўсхваляваў мяне. Нарэшце лёд крануўся. Гэты чалавек напісаў праўду. Мы шмат наслухаліся пра партызанскае геройства. Але былі розныя партызаны. Людзі майго веку ведаюць і іншую праўду пра партызанаў: як «ваявалі», як калашмацілі насельніцтва, як палілі хаты ў вёсках. Але ніхто не адважваецца напісаць праўду, у тым ліку і я, бо няма афіцыйных доказаў (маю на ўвазе даты, колькасць учынкаў і ахвяр і г. д.).**

**Мне 62 гады. Нарадзілася я ў вёсцы Навасёлкі за 2 кіламетры ад Мядзела. Не ведаю як дзе, а мы нацярпеліся і ад партызанаў.**

**Назва нашай вёскі, дарэчы, знікла, бо вёску прылучылі да Мядзела, а вуліцы далі назву Алега Бычка, мусіць, ён быў партызанам, але ніякага дачынення да нашай вёскі не меў. Няхай бы вуліцу назвалі Навасельская. Дзе гэта знайсці аднадумцаў, каб хто дапамог?**

**Прабачце за такі няўцямны ліст, але я мусіла вам «паспавядацца».**

**Ірына МІСУНА.**

г. Маладзечна.

### УВАГА ЧЫТАЧЫ!

З фінансавых прычын змушаны зьмяшчаць у газэце артыкулы перадрукоўваныя з прэсы Рэспублікі у іхным пакалечаным правапісе-фотадрукам. Перапрашаем!

Радакцыя